лёяльных стасункаў галоўным чынам у эканамічным жыцьці, даючы магчымасьць шырокага транзыту тавараў паміж Савецкімі Рэспублікамі і Заходам, каб у гандлёвых зносінах быць мостам на дорогах з усходу да мора, а не перашкодаю. Па словам Гальванаўскаса паміж Балтыцкімі дзяржавамі ня істнуе ніякіх перашкодаў да іх зьбліжэньня і ўзаемнага падтрыманьня і разьвіцьця.

# С. С. С. Р.

## Аб студэнтах беларусах у Петраградзе.

Рух сярод Петраградзкіх беларусаў прымае ўсё больш інтэнсыўны характар. Пачаўшыся ў Сельскагаспадарчым Інстытуце, гэты рух перакінуўся далёка за яго сьцены, ахапіўшы амаль што ўсе ВУЗ-ы Петраграду. Гэты рух канчаткова выліўся ў арганізацыю навукова культурна-асьветнай асацыяцыі беларускіх студэнтаў Петраграду.

Апошні агульна-гарадзкі сход студэнтаў беларусаў адбыўшыся 6 мая г. г. паказаў няўхільную волю і жаданьне студэнтаў аддаць усе свае сілы і веды эканамічна культурнаму адраджэньню Беларусі.

Сябры асацыяцы, і разьмяркоўваюцца па навуковых установах Петраграду такім чынам:

Сельска-Гаспадарчы Інстытут—63 чал.
Лясны Інстытут—14 чал,
Тэхнолёгічны Інстытут—11 ч.
Дзяржаўны Унівэрсытэт—34 чал.
Палітэхнічны Інстытут— 8 чал.
Дзяржаўны Інстытут Мэдыцынскіх Ведаў—7 ч.
Вайскова-Мэдыцынская Академія—9 чал.
Быўшы Жаноцкі Мэдыцынскі Інстытут—5 чал.
Пэдагагічны Інстытут—13 чал.
Вайскова Гаспадарчая Акадэмія—2 чал.
Вайскова-Інжэнэрная Акадэмія—2 чал.
Вэтэрынарны Інстытут—6 ч.
Пазашкольны Інстытут—2 ч.

Усяго гэта складае 176 чалавек. Пры гэтым трэба заўважыць, што гэты лік далёка няпоўны, бо многія студэнты, якія цікавяцца справаю, не зарэгістраваліся па тых ці іншых прычынах.

Праца асацыяцыі ідзе даволі інтэнсыўна. За пэрыад з 15 лютага было паладжана 8 сходаў, па якіх чыталіся даклады. Даклады ў большасьці на эканамічныя і рэвалюцыйныя тэмы выклікалі шмат пытаньняў і спрэчак.

У далейшым будуць наладжаны, апроч дакладаў, канцэрты, спэктаклі і г. д.

Апроч таго, асацыяцыя мае прыняць удзел у практычнай працы на тэрыторыі Беларусі і цяпер высьвяецца лік жадаючых прыняць удзел у працы і іх спэцыяльнасьцяў. Тут, бязумоўна, знойдуцца і каморнікі, і аграномы, і санітары і г. д.

У працы асацыяцыі прымае значны ўдзел т. Канчар.

Наогул, асацыяцыя падае надзеі, што з часам яна зойме пачэснае мейсца ў ходзе культурна-эканамічнага разьвіцьця Беларусі.

**С. Красоўскі.**

### Ангельскі флёт ў Белым моры.

„Роста“ паведамляе, што 26 траўня ў паграничных водах паказаліся 2 ангельскіх крэйсэры, кананерка і 2 вайсковых тралеры, якія і да гэтага часу курсуюць у 10-х мілях ад берага. 29-га паказаліся 2 крэйсэры і 2 вайсковых тралеры ў адлежнасьці дзьвух міль ад берагу. У районе Харлава ўвесь час трымаецца кананерка, ахраняючая прамысловыя ангельскія тралеры у дзевяцёх мілях. Прамое варожае дзейнасьці ангельскія караблі покуль што нявыказываюць, але ня выключана магчымасьць раскіданьня імі мін. Напрыклад, паяўленьне плывучае міна у Кольскай затоцы якраз выпадае на той час, калі была ў нашых водах ангельская кананерка „Кадэці“.

### Бухарын аб пагрозе вайны.

На чацьвертым усерасейскім зьезьдзе транспарт. работнікаў Бухарын адзначыў, што Савецкім Рэспублікам цяпер пагражае небясьпека вайны з двух бакоў: Румыніі і Польшчы. Недаўна Польшча зрабіла мабілізацыю некалькіх прызыўных гадоў. Прыезд Фоша да Варшавы зьвязаны з вайсковымі справамі. У Румыніі так-сама трывожна. Савецкім Рэспублікам трэба зрабіць адпаведныя вывады. Зьменшаную чырвоную армію трэба паставіць так, каб яна зьяўлялася паважнай вайсковай сілай. З гэтага аднак, не выцякае, што Савецкім Рэспублікам прыдзецца ваяваць зараз-жа, бо Польшча так-сама як і Румынія ў такім эканамічным і фінансавым палажэньні, што самі не адважацца на такую авантуру, што бяспрэчна скончылася-б для іх крахам. На вайну могуць яны толькі адважыцца пад уплывам і на дамаганьні французскага капіталу.

(„Земля і Воля“).

## Аб польскай школе у Савецкай Беларусі.

### Канфэрэнцыя настаунікау польскіх школ.

У Слуцку адбылася канфэрэнцыя настаўнікаў польскіх школ у Случчыне.

З дакладаў з мест выявілася, што ў Замосьценскай школе выкладаюцца тры мовы, у Ленькаўскай школе, якая лічыцца польскай,—польская мова зусім не выкладяецца, бо **яе ня хоча сялянства**; у Рымскай школе папольску вучацца толькі тры вучні, Старыцкай адзін і г. д.

Бяручы пад увагу мясцовыя варункі, дзе клерыкалізм каталіцкі мае яшчэ значны ўплыў, які выяўляецца ў палёнізацыі беларусаў, канфэрэнцыя прызнала, што школы польскія ў мясцовасьцях, дзе беларускае насяленьне іх патрабуе—яшчэ **пакуль** патрэбны. Трэба толькі назначыць у школу адпаведных настаўнікаў, якія-б выхавалі дзяцей па новаму, ў духу клясавай ідэалёгіі. Настаўнікаў, якія не адпавядаюць прынцыпам адзінай працоўнай школы трэба звольніць, а слаба, падгатаваных—паслаць на курсы.

### Газэта „Młot“ аб польскіх школах у Савецкай Беларусі

Выходячая ў Менску польская газэта „Młot“ адкрыла палеміку ў справе польскіх школ у Савецкай Беларусі.

Врублеўскі ў № 41 гэтай газэты даводзіць непатрэбнасьць польскіх школ і прапануе замяніць іх на беларускія. Як кампраміс у гэтай справе, Врублеўскі лічыць магычмым увядзеньня ў некатарых беларускіх школах польскай мовы як прадмету.

У № 50 Гэльтман аб гэтым пытаньні піша вось што:

„Вялікаю абмылкаю ёсьць тое, што ў польскіх школах на беларускай тэтыторыі не выкладаецца беларуская мова.

Ад новага школьнага году гэтую абмылку трэба паправіць.

Угрунтаваньне само сабою кідаецца ў вочы.

Польскае жыхарства, расьсеянае выспамі пасярод беларускага альбо ўкраінскага жыхарства, павінна ведаць ня толькі штодзённую мову большасьці, але добра ўладаць ёю ў слове і пісаньні, ведаць яго літэратуру. Увядзеньне выкладаньня беларускай мовы будзе паважным фактам, зьбліжаючым абедзьве нацыяналанасьці, рашуча зьніщчыць усякую можнасьць палёнізацыі тых дзяцей, нацыянальнасьць якіх можа ня зусім ясная, павялічыць у вачох польскага жыхарства павагу і значнасьць беларускай мовы, якая зусім яшчэ нядаўна лічылася „хамскаю“ моваю.“

# З газэт.

### Службовае палажэньне.

„Robotnik“ гэтымі днямі надрукаваў цікавую карэспандэнцыю з Парыжу, у каторай паміж іншым чытаем:

> Ужо за тыдзень да стварэньня у Польшчы новага ураду некаторыя француськія газэты, як „Matin“, „Journal“, давалі весткі аб будучай рэакцыйнай урадовай камбінацыі, цяперака зьдзейсьненай, гаворачы аб ёй вельмі прыхільна дзеля таго, што новы габінэт п. Вітаса будзе процi-нямецкім. Гэтак некаторыя француськія часопісі усьцяж дзеляць польскае грамадзянства на партыі, прыхільныя або няпрыхільныя ці то да Нямеччыны, ці да Расеі. З тону гэных газэт трэба зрабіць вывад, што скінуты урад п. Сікорскага быу прыхільны да немцау?! І дзеля гэтае прапаганды выцягнулі плётку, што Пілсудскі заглядауся адно толькі на Усход, не дагледзіушы нямецкае небясьпекі. Тыповай зьяуляецца сёньняшняя тэлеграма у газэце „Echo de Paris“, якая з радасьцяй вітае утварэньне новага ураду у Польшчы і павучае, што п. Сікорскі не даволі зварачау увагу на нямецкую небясьпеку.

„Robotnik“ зьдзіўлены з прычыны такога становішча французскае прэсы, але нас яно зусім ня дзівіць. Французы перакананы, што за свае франкі маюць права вымагаць ад Польшчы поўнае паслухмянасьці і пакіраваньня ўсіх сваіх сіл проці Нямеччыны, каб яе дабіць. І ў тым, што французы пазваляюць сабе іменна так глядзець на ролю Польшчы, вінаваты толькі тыя, хто самахоць прыстаў на **службовае палажэньне**.

# ?

Бадай з усіх павятовых гарадоў і большых мястэчак з Беларускіх выбарных акругоў прысылаюць у Рэдакцыю запытаньні, чаму Беларускі Пасольскі Клюб не адчыняе сэкратарыяты, каб люднасьць мела, так неабходную для яе, лучнась з сваімі выбраньнікамі.



# *Дэмакратыя, пралетарыят і нацыянальнае пытаньне.*

Дэмакратыя, ці дыктатура пралетарыяту? — Вось пытаньне, аб якім ідзе цяпер спорка ня толькі ў тэорыі, ня толькі на словах, але і на практыцы, на дзеле. Мы маем на думцы экспэрымэнт рэалізацыі дыктатуры пралетарыяту ў злучаных Савецкіх Рэспубліках, пабудаваных на руінах Расейскае дзяржавы, і тыя варожыя адносіны да гэнага экспэрымэнту, з якімі ён сустрэўся з боку сусьветнае дэмакратыі.

Аднак, ня будзем затрымлівацца на істоце споркі ў поўным аб'ёме яе: не тэорыя, а практыка — само жыцьцё разьвяжа яе аканчальна. Мы разгледзім толькі адзін мамэнт у гэтай спорцы, — мамэнт, які адносіцца да разьвязкі **нацыянальнага пытаньня** на грунце аднае і другое ідэалёгіі — дэмакратычнае і пралетарскае.

Тут мы павінны зразу адзначыць, што заходня-эўрапэйская **дэмакратыя** не здалела на практыцы разьвязаць нацыянальнае пытаньне хаця ў найменшым прыбліжэньні да сваіх тэорэтычных дэкляраций. У прылажэньні да жыцьця ўсіх дэмакратычных лёзунгаў аб нацыянальнай свабодзе і нацыянальным самавызначэньні выявілася поўнае банкруцтва сучаснае дэмакратыі. Запраўды: перш за ўсё лёзунгі гэтыя звужаны толькі да волі для **дзяржаўных нацыянальнасьцей**. Англія зялезным кулаком сваім заціскае горла народаў ірляндзкага і індускага. Французская палітыка ў адносінах да колоніяльных народаў выклікае шчырую агіду. Прызваная да жыцьця воляй вялікіх заходня-эўрапэйскіх дэмакратый Польшча дзеліць на часьці Беларусь, пазбаўляючы насяленьне яе ня толькі права на самавызначэньне, але і права на самастойнае культурнае жыцьцё. Тая-ж Польшча, ня гледзячы на абяцанкі тых-жа заходня-эўрапэйскіх дэмакратый, не дае аўтаноміі Усходняй Галічыне і адмаўляе украінцам нацыянальных правоў гэтак сама, як і беларусам. І ўсё гэта робіцца з ведама і з благаслаўленьня перш **за** ўсё дэмакратычнае Францыі, а такжа і яе дэмакратычных саюзьніц... Пытаньне аб **недзяржаўных** нацыянальнасьцях дэмакратыяй зусім не разьвязана і астаецца ў гэты мамэнт як раз у тым самым палажэньні, у якім знаходзілася перад сусьветнай вайной.

Зварачаючыся цяпер да адносін паміж дэмакратыямі дзяржаўных народаў, трэба адзначыць, што і тут мы ня бачым прылажэньня на практыцы гучных лёзунгаў дэмакратыі, асабліва калі справа датычыцца пытаньня аб прынцыпе **роўнасьці**. Заходня-эўрапэйская дэмакратыя падзелена на дзьве часьціны: **пераможцаў** у сусьветнай вайне і **пераможаных**. У дзіўным засьляпленьні французская дэмакратыя лятуціць аб гэгемоніі Францыі ў Эўропе, арганізуе малыя дзяржавы, што апынуліся ў сфэры французскіх уплываў, дзеля новае крывавае расправы з Нямеччынай і, эвэнтуальна, з Савецкімі Рэспублікамі, ды сваімі карацельнымі санкцыямі, захватам нямецкае тэрыторыі і нацыянальных багацьцяў нямецкага народу ўбівае нож у сьпіну найдэмакратычнейшае спаміж усіх дэмакратычных рэспублік і падгатаўляе ґрунт дзеля пераходу ўлады, вырванае нямецкім народам з рук кайзэраў, у рукі Штінэсаў.. А адначасна з гэтым паходам проці нямецкае дэмакратыі эўрапэйская дэмакратыя народаў-пераможцаў вядзе такіж недастойны паход проці адрадзіўшайся турэцкай дэмакратыі — і то выключна дзеля карысьці свайго ненасытнага капіталу!

Абраз нязвычайна сумны. Сумны ня толькі затым, што дэмакратычная ідэалёгія ў нацыянальным пытаньні яўна збанкрутавала, але і затым, што нядольнасьць дэмакратыі разьвязаць на практыцы нацыянальнае пытаньне суліць сьвету новыя нялічаныя беды...

Зьвернемся цяпер да другое ідэалёгіі — ідэалёгіі **пралетарскае**—і разгледзім, як тут на практыцы разьвязываецца нацыянальнае пытаньне. Матэрыялам дзеля нашых разважаньняў будзе служыць пры гэтым выключна практыка Саюза Соцыялістычных Савецкіх Рэспублік: гэта—адзінае гаспадарства, дзе

# Жанчына і клясовая барацьба.

Па ўсяму сьвету ідзе цяпер заўзятая клясовая барацьба:—супроць уціску і эксплёатацыі капіталістаў паўстае працоўная гушча.

Жанчынам-работніцам нельга праходзіць міма гэтай барацьбы, яны павінны дружнымі арганізаванымі шарэнгамі папоўніць сілы работніцка-сялянскай клясы, яны павінны раз на заўсёгды адмежавацца ад тых жанчын, якія вядуць лядачае жыцьцё ў распусьце і роскошы і, як ваўчыцы свае лагво, бароняць капіталістычны лад.

Сучасны міжнародны наступ капіталізму на працоўных усяго сьвету ўзваліваецца ўсім сваім цяжарам перш найперш на жанчыну. Паніжаецца заработная плата для жанчыны, не дапускаецца да выбарнага закону, затрудняецца доступ да навукі і г. д.

Беларуская жанчына асабліва адчувае прадвечны ўціск капіталу. Сярод працы „ад зары да зары“, у безканечным голадзе душы і цела каратаець яна свой век, аддаючы свае сілы і здатнасьць часта чужому полю, а сваё хараство і багацтва душы на марнасьць для нэндзы і цемнаты.

Увесь век яна зносіць моўчкі зьневагу і пакору.

Пабач з гэтым мы бачым, што ёсьць такія пані, якія дбаюць толькі аб захаваньні рознымі касмэтыкамі дэлікатнасьці свайго сытага цела, якое гадуюць для ласк багачоў.

Працай такой пані ёсьць перамена разы са тры ў дзень сваіх хітра выдуманых вопратак, пяшчоты адкормленых сабачак і папугаяў, сачэньне за модай, плёткі, смашныя стравы, адным словам жывець, каб знайсьці ў жыцьці асалоду і прыемнасьць, каб жыць з чужой працы, жыць толькі для сябе.

Мы бачым, якая глыбокая пропасьць паміж гэтымі дзьвумя жанчынамі—працоўніцай і паняй. Пропасьць гэтую стварае сучасны капіталістычны лад.

Пралетарскія жанчыны павінны зразумець і зазначыць чалавецтву, што яны хочуць і могуць абараніцца ад пагроз капіталізма, што яны стаяць за роўны падзел працы, што яны маюць права карыстацца ўсімі пладамі людзкой творчасьці, здабыткамі навукі і людзкога поступу, што яны змагаюцца за вольнае сужыцьцё ўсіх народаў, за справядлівы грамадзкі лад.

**Р. Юргілевіч.**

# Зямельны кодэкс у Савецкай Беларусі.

Сэкцыя Ц. В. К. Беларусі пастанавіла прыняты зямельны кодэкс увесьці ў сілу з 15 красавіка па ўсёй тэрыторыі Б. С. С. Р. Ранейшыя законы аб зямлі з гэтага часу траця́ць сваю сілу.

Новы зямельны кодэкс пацьвярдзіў, што правы прыватнай уласнасьці на зямлю, лясы, воды і ўсе прыродныя багацьці на тэрыторыі Б.С.С.Р. адменены незаўсёды. Уся зямля, хто-б ёю не карыстаўся, ёсьць уласнасьць рабоча-сялянскай дзяржавы.

Карыстацца зямлёю могуць працоўныя земляробы, іх аб'еднаньні, гарады і гарадзкія пасяленьні, дзяржаўныя ўстановы і прадпрыёмствы і грамадзянскія арганізацыі. За імі толькі замацоўваецца зямля пры ўмовах, калі імі будуць выпаўнены ўсе ўстаноўленыя запатрабаваньні.

Зямельны кодэкс вызначае з паўнатою і і яснасьцю ўмовы трудавога землякарыстаньня, арэнду зямлі, дапамогчую працу ў сельскіх гаспадарках, правілы аб зямельных обчаствах і органах кіраваньня обчаствамі, аб усадзебных вучастках і лугох, вырашае пытаньне аб гарадзкіх землях, вызначае роль і назначэньне савецкіх гаспадарак, устанаўлівае правілы аб землябудаўніцтве, перасяленьні і г. д.

Права на карыстаньне зямлёю маюць усе грамадзяне Б.С.С.Р. незалежна ад стану нацыянальнасьці ці вераспавяданьня. Гэта знача, што ўсе: і мужчыны, і кабеты, і беларусы, і палякі, і веруючыя праваслаўныя, і каталікі, і зусім няверуючыя маюць права карыстацца зямлёю. Але працаваць на ёй яны павінны самі.

## Як атрымаць зямлю.

Грамадзяне, жадаючыя працаваць на зямлі, могуць атрымаць яе ад зямельных органаў, калі апошнія маюць у запасе зямлю для працоўнага землякарыстаньня. Грамадзянін, маючы права на карыстаньне зямлёю, можа зьдзейсьніць гэта права альбо адзін, альбо ў складзе якога небудзь таварыства, сяла, камуны. суполкі і г. д. У апошнім выпадку — таварыства выпрацоўвае парадак землякарыстаньня: ці апрацоўваць зямлю ўсім разам, ці кожны сябар павінен апрацоўваць зямлю ўсім разам, ці кожны сябар павінен апрацоўваць пэўны вучастак. Калі-ж землякарыстацель хоча працаваць адзін (на хутары і г. д.), дык парадак землякарыстаньня ўстаноўлівае ён сам. Напр., ён можа ўстанавіць у сябе той ці іншы севазварот, незалежна ад севазвароту яго суседзяў.

Зямля даецца ў працоўнае землякарыстаньне бестэрмінова і права на яе карыстаньне можа быць аднята толькі ў пэўным законным парадку.

## Захаваньне права на землякарыстаньне.

У выпадку, калі аддзельныя сябры гаспадаркі ідуць на вайсковую службу па мабілізацыі альбо выбіраюцца ў якую небудзь савецкую ўстанову, іх частка зямлі лічыцца за імі ва ўвесь час іх адлучкі. У выпадку адходу на заработкі зямля захоўваецца за адышоўшымі ў працягу 2 севазваротаў, а пры адсутнасьці пэўнага севазвароту — 6 гадоў.

Права працоўнага землякарыстаньня адбіраецца ў такіх выпадках:

1) Дабрахвотнага адмаўленьня ад зямлі. У гэтым выпадку трэба падаць заяву ў мясцовы зямельны орган.

2) Спыненьне вядзеньня самастойнай гаспадаркі поўнасьцю, калі зямлякарыстацель бяз пэўных прычын не апрацоўвае зямлі ў працягу 3 гадоў. Тады зямельныя органы могуць адабраць права землякарыстаньня.

3) У выпадку сьмерці ўсіх сяброў гаспадаркі.

4) У выпадку перасяленьня ў другое мейсца, прычым на старым мейсцы землякарыстацель спыняе вядзеньне гаспадаркі Замест старага надзелу ў новым мейсцы землякарыстацель можа атрымаць новы надзел.

5) Адабраньне правоў на землякарыстаньне па суду.

6) У выпадку, калі зямля займаецца дзеля дзяржаўных патрэбаў. У гэтым выпадку замест адабранага надзелу даецца новы і аплачываюцца ўсе страты землякарыстацеля.

## Умовы землякарыстаньня.

На сваім надзеле землякарыстацель можа будаваць розныя будынкі для жылья і гаспадарчых патрэбаў і мае права карыстаць зямлёю якім хоча спосабам, толькі з некаторымі абмежаваньнямі.

Ен ня мае права рабіць нічога, што шкодзіць суседзям альбо дзяржаве.

Дзеля таго, што ўся зямля належыць дзяржаве, — прадаваць, купляць, закладываць, завяшчаць і г. д. зямлю ня можна. Зрабіўшыя гэта караюцца ва ўгалоўным парадку і ў іх адбіраецца права на даны надзел.

**П. Р.**

# Нашы старажытнасьці.

Вялікі скарб маем мы пад сабой і каля сабе але не прыкмячаючы яго, мы бязлітасна топчым і горнем яго ў труну забыцьця, як бруднае сьмяцьцё.

Кожная беларуская вёска носіць назву больш усяго ад імя залажыцеля яе, або выбухнуйшага ў той час якогасьці здарэньня, ці ад характару мяйсцовасьці і жывуць у гэтай вёсцы з веку ў век дзяды, жывуць, паміраюць, сыны лажываюць век бацькоў і тыя сходзяць у магілу, а нікому хоць на сьмех ня прышло ў галаву папытаць у іх і цікавае запісаць аб мінуўшчыне гэтае вёскі. А ёсьць дужа цікавыя рэчы. Бывае, каторая небудзь вёска, захудалая і мізэрная, носіць добрую гістарычную славу; бывае, каля якога небудзь урочышча адбываліся вялізныя бойкі, тут-жа хаваліся соткі людзей, разам з імі закапаваліся розныя дарагія рэчы, і... усё гінула, а затым, што нікому ня было цікава выпытаць аб мінуласьці гэтае мяйсцовасьці.

зрэалізавалася на дзеле ідэя **дыктатуры пралетарыяту**.

Тутака мы можам адзначыць два дужа цікавыя пэрыяды. У мамэнт сацыяльнае рэвалюцыі ў Расеі быў абвешчаны такі шырокі прынцып самавызначэньня нацыянальнасьцей, што дапускалася навет **поўнае аддзяленьне** кожнага народу ад Расейскае Соцыялістычнае Фэдэрацыйнае Савецкае Рэспублікі. Вось-жа ў пэрыяд **будаваньня** Рэспублікі прынцып гэты доўгі час істнаваў толькі на паперы. Яму давялося змагацца з дзьвюма перашкодамі. З аднаго боку рэалізацыя дыктатуры пралетарыяту ў старане, дзе галоўную масу насяленьня становіць сялянства, а лічэбнасьць пралетарыяту—дужа невялікая, вымагала самае поўнае канцэнтрацыі ўлады ў руках пралетарыяту вялікіх прамысловых цэнтраў і сталіц. Гэта аддало ўладу ў рукі **вялікарускага** пралетарыяту і вялікарусаў наагул, пад той час, як „інародныя акраіны былі пазбаўлены навет магчымасьці думаць аб якім-колечы самавызначэньні, ня кажучы ўжо аб аддзяленьні ад Расеі. З другога боку, у гэты пэрыяд вельмі ярка выявілася імкненьне вялікарусаў у тым ліку і камуністычнае інтэлігэнцыі—да **вялікадзяржавія**, гэгемоніі, пяршынства сярод народаў рэспублікі. І толькі цяпер, з пачаткам новага пэрыяду ў савецкім дзяржаўным будаўніцтве, мы бачым барацьбу ідэалёгаў дыктатуры пралетарыяту з гэтым імкненьнем.

Новы пэрыяд у савецкай палітыцы пачаўся нядаўна. Гэта пэрыяд **крытычнае праверкі** ўсяго, што зроблена ў часе тварэньня Р. С. Ф. С. Р. Побач з НЭП, ам (Новай Эканамічнай Палітыкай), мы бачым і Новую Нацыянальную Палітыку, і цяпер робіцца дужа сур'ёзны падход да запраўднае рэалізацыі прынцыпу, абвешчанага расейскай сацыяльнай рэвалюцыяй. На першым месцы бачым прызнаньне, што нацыянальныя асаблівасьці кожнага народу, яго нацыянальная культура—гэта вялікая цэннасьць, якую трэба шанаваць, а ня нішчыць. У сувязі з гэтым даецца шырокі прастор культурна-нацыянальнай працы „інародцаў“, у тым ліку і беларусаў. Мала таго: нацыянальны прынцып кладзецца ў аснову перабудовы ўсяго дзяржаўнага ладу Савецкае Расеі. Замест **Расейскае** Рэспублікі творыцца **Саюз Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік**. Рэспублік **нацыянальных**. І такім чынам намячаецца дарога да перастройкі адносінаў і паміж дзяржаўнымі народамі наагул: Саюз можа тэрыторыяльна пашырыцца ўсё далей і далей, імкнучыся абняць **усе народы сьвету**.

Гэтак бачым першую спробу даць ня толькі ў тэорыі але і **на дзеле** разьвязку нацыянальнага і нацыянальна-дзяржаўнага пытаньня. І пад той час, як **дэмакратыя** не адважылася навет падысьці да гэнае разьвязкі, не пайшла далей дэкля мацыі аб Вільсонаўскім прынцыпе самавызначэньня нацыянальнасьцей, астаўшыся пустым словам, **пралетарыят** меў адвагу і волю рэалізаваць, правясьці ў жыцьцё тое, што прызнаў справядлівым у тэорыі.

Ведама, мы можам дагэтуль гаварыць толькі аб **падыходзе** да разьвязкі нацыянальнага пытаньня ў С. С. С. Р. Там яшчэ дужа сільны перашкоды, якія на кожным кроку сустракае і будзе сустракаць новая нацыянальная палітыка, Там яшчэ прыходзіцца лічыцца з вялікадзяржаўнымі імкненьнямі расейцаў, з асаблівым соцыяльным укладам жыцьця паадзінокіх народаў, якія ўваходзяць у склад С.С.С.Р. Беларускаму народу прыдзецца яшчэ мо доўга змагацца з маскоўскім цэнтралізмам, які, згодзіўшыся на Рыжскім міры на падзел Беларусі між Расеяй і Польшчай, правёў яшчэ другі падзел Беларусі — падзел унутраны, адарваўшы ад Савецкае Беларусі Віцебшчыну, Магілёшчыну і Смаленшчыну і далучыўшы іх да Маскоўшчыны, каб лягчэй было вясьці дэнацыяналізацыю беларусаў.

Але факт астаецца фактам: тое, на што ня важылася дэмакратычная ідэалёгія, узялася правясьці ў жыцьцё ідэалёгія **пралетарская**.

**К. Фалькевіч.**

Нашы пушчы-лясы, нашы рэчкі, млыны, што разьвярнуўшыся стаяць над грэбляй, нашы маленькія ўрочышчы на вотшыбе лесу—колькі чаго дзіўнага й каштоўнага маглі-б яны сказаць!

А старыя дзяды, лірнікі-гусьляры?! Ці яны адкажуцца вам сказаць тое, што патрэбна ім выказаць, што даўно ўжо просіцца ў іх з грудзей на волю?

Ніколі! Толькі гэта трэба ўмець, толькі трэба ўмець падыйсьці, зацікавіць, скіраваць яго думкі ў бок даўно мінулага, ды самому неўзаметку ўкрыцца.

Шмат ёсьць чаго дзіўнага, шмат можна аб чым даведацца, але трэба ахвота. Усё мяняецца праходзяць сталецьці,—і там, дзе былі нетры, цяпер раскошныя, з добрай глебаю, палі, дзе былі непраходныя балоты,—зрабіліся багатыя сенажаці. Мяняецца ўсё, а жыцьцё людзкое цячэ як рэчка. Цякуць гады, а з імі і памяць аб мінуўшчыне, і калі хто ня зможа ўхаваць скарбу багацьця старажытнасьці, тады калі гэта неабходна патрэбна—процьма сьмерці ўсё роўна глыне й гэта. Песьні, адны яшчэ песьні жывуць з сваімі матывамі, Найяскравей адзначаюцца песьні любві з безсмяротнымі матывамі, бо любоў ніколі не памрэ і жыве як даўней, так і цяпер.

Патрэбна сабраць усё, што толькі мае гістарычную ці навуковую вартасьць, бо трэба заўважыць, што за часы рэвалюцыі на Беларусі да гэтага часу вельмі мала сабрана ў параўнаньні з тым, што можна сабраць. Гэта грэх, калі скарбы валяюцца пад нагамі, а іх ніхто не падымае.

Беларускі край з сваймі пушчамі, з сваймі нетрамі, балотамі й прыгожымі далінамі чакае мастака, які дасьць патомкам нашым вялізны гістарычны й навуковы скарб мінулага Беларусі. Гэты мастак і ёсьць сьвядомая інтэлігэнтная беларуская моладзь. Толькі яна згуртаваўшыся ў культ-асьветныя гурткі зьдзьмухне пыл старасьветчыны й пакажа ўсяму сьвету нашы заклятыя скарбы прошласьці.

**М. Нікановіч.**

# З усяе Беларусі.

### Стараньне настаўніка—посьпех вучняў.

(*Лагойская воласьць, Барыс. пав.*).

10 мая ў м. Лагойску адбыўся спэктакль, пастаўлены вучнямі Гасьцілавіцкай беларускай школы і Лагойскай сямёхгадоўкі. Пастаўлены былі „Пастушкі“-Кудзелькі і „Босыя на вогнішчы“ М. Чарота. Гэта быў дзіцячы вечар, вечар для дзяцей-вучняў усіх школ Лагойскай вол. Добра ігралі на сцэне саўсім малыя вучні Гасьцілавіцкай школы („Пастушкі“), ігралі з зацікаўленьнем; самі мужыцкія дзеці яны няйгралі, а жылі на сцэне. Тут відна была праца і шчырая прыхільнасьць да сваіх вучняў настаўніка іх тав. Бабкоўскага.

**С.**

### Прыклад іншым вёскам.

(*Вёска Дзюдзева, Грэскай вол., Слуцкага п.*).

Вёска Дзюдзева мае каля 86 гаспадароў. Значная частка жыхароў, апрача земляробства, займаецца рамяством.

Тут ёсьць і шаўцы, краўцы, муляры, кавалі і сталяры; апроч гэтага, кожны жыхар бандаруе і сам вырабляе для сябе скуры і аўчыны. Рамесьнікі працуюць нават на ўсе вакалічныя вёскі і двары.

Што датычыць асьветы, то яна гэтак сама стаіць тут вышэй другіх вёсак Грэскай воласьці. Кожны гаспадар аддае дзяцей сваіх у школу; шмат моладзі вучыцца ў сярэдніх і ў вышэйшых школах, а тая частка моладзі, якая застаецца дома, арганізавала гурток, дзе займаецца самастойнаю працаю. У гэтым дапамагае настаўнік Барысавец, чытаючы лекцыі на розныя жывыя тэмы і знаёмячы з беларускім пісьменствам.

У гэтай вёсцы знаходзіцца каапэратыў, які істнуе ўжо каля пяцёх гадоў. Жыхары адносяцца да яго з пашанаю, бо ён здавальняе ўсё патрэбы нашых сялян.

Што тычыцца да вясковай школы, то трэба сказаць, што справа йшла надта добра. Але толькі адна бяда, што дзецям прыходзілася сёлета вучыцца ў сялянскай хаце, ня зусім добрай для здароўя і іншых патрэбаў школы. Але гэтак ня будзе на другія гады. Гэтаму будзе ўжо канец. Жыхары будуюць новую школу. Думаецца, што хутка скончаць, толькі сёе тое перашкаджае працы. Надта прыемна было-б, каб паклапаціўся аб гэтым Аддзел Народнай Асьветы — усё-ж лягчэй было-б.

**А. Асот.**

### Веска Яршэвічы, Гараодкскай гм. Вялейск. п.

У нашай вёсцы ёсьць будынак школы, але за вайну ён асунуўся і пустуе, а шкада, бо дзеці ў нас хочуць вучыцца і шмат іх ходзіць невучамі. А чаму ў нас школы няма. Адказ можна было-б і не пісаць бо усім ён вядомы—не даюць нам школ. Калі гмінная рада падняла пытаньне аб беларускай школе, дык дасталося-ж ёй ад школьнага інспэктара. Бальшавікамі зваў у здрадзе западозрыў. А Вялейскі староста адаў школу пад тэатр тутэйшаму „kółku młodzieży“ куды ўваходзяць мясцовыя шляхтуны. Хлеў пры школе пашоў на будову сцэны. Вокны пазабівалі, столь прарэзалі I тэатр гэта такі, што ноччу акалічныя вёскі думаюць, што вайна ці бандыты. ажно гэта „kółko młodzieży“ гуляець вечарыну страляючы з аружжа, толькі кулі сьвісьцяць. Хутка гэты тэатр мусіць дымам пойдзе пры гэткіх гулях.

Дрэнным прыкладам і нашыя дзеці заражаюцца, ганяюць сабак, ходзюць, як ачумеўшыя і пьянствуюць, бо чаго добрага, а рэстаран і ў нашым сяле ёсьць.

**Выпадковы.**

### м. Трабы, *Валож. пав.*

22 траўня, ў кярмашны дзень, паліцыянты на уліцы увідзелі ідучы да хаты пьянага сяляніна Харэвіча з вёскі Міхалоўшчыны, Траб. вол:

Завёўшы на пастарунак паліцыянты звязалі яго і, як азьвярэўшыя, мясілі нагамі і білі чым папала. На усю вуліцу быў чуваць крык і стагнаньне Харэвіча.

Некатарыя сяляне падыйшоўшы да пастарунку, прасілі паліцыю ня біць нявіннага чалавека.

На гэта паліцыя адказывала той-жа пагрозай, як і Харэвічу

Пабіўшы да бязчуцьця Харэвіча пасадзілі да „пакі“ ў якой гэты сялянін адседзіў суткі.

## З Гомельшчыны.

### Тэлефонізацыя губэрні.

Губ. Вык. Кам. пастанавіў наладзіць тэлефонвую сувязь з новымі валаснымі цэнтрамі, а пасьля наладзіць такую сувязь па ўсёй губэрні.

### Сем'і рэзэрвістаў маюць права на дапамогу.

Згодна ўхвалы Сойму, сем'і рэзэрвістаў маюць ў працягу месяга ад дня пакліканьня да войска мужа, брата ці сына, дамагацца ад гмін грашовай дапамогі на пражыцьцё, ці на падтрыманьня гаспадаркі. У выпадку адмовы гміны ў дапамозе трэба ўнясьці скаргу да Староства.

## З Беларускага Жыцьця.

У вёсцы Забрэзьзе, Валожынскага п. 10-га траўня паліцыя арыштавала двух сялян і гр. Заблоцкага, які месяц таму назад адседзіў ужо 4 месяцы вастрогу за праўду, якую любіў казаць у вочы крыўдзіцелям беларускага народу. Закаваўшы іх у кайданы дзевяць паліцэйскіх пагналі пехатой шаснаццаць вёрст у Валожын.

У Радашкаўскай Беларускай Гімназіі 19-га чэрвеня пачнуцца ўступныя экзамены.

Педагогамі і вучнямі Радашкоўскай гімназіі ладзіцца беларуская вечарына на 17-га чэрвеня. Пастаўлена будзе „На Папасе“ Янкі Купала“, „На вёсцы“ Аляхновіча і „П. С. Х.“ Сучаснага.

**Зьезд паўнамоцнікаў Віленскага Саюза Каапэратываў.**

На 23 чэрвеня склікаюцца на IV зьезд усіх паўнамоцнікі Віленскага Саюза Каапэратываў, які мае адбыцца ў Вільні ў памешканьні Саюза на Віленскай вуліцы № 12 пам. 1.

Калі ў назначаны час не зьбярэцца належнага ліку прадстаўнікаў, дык праз дзьве гадзіны таго-ж дня зьезд будзе адчынены.

Маючы на ўвазе важныя справы на парадку дня Управа Саюзу просіць паўнамоцнікаў усім прыехаць на зьезд.

Бацькаўскі Камітэт пры Віленскай Беларускай Гімназіі падзіць на 10-га чэрвеня ў залі Беларускай Гімназіі (Вострабрамская 9) вечарыну на карысьць незалежных вучняў. Праграма складаецца з дэклямацыі сьпеваў опэрнага артысты Петраградзкага тэатру Віктара Баэра і Тамары Баэрчанкі. Гімназіяльны хор выканае некалькі беларускіх песянь. Пасьля канцэрту танцы на залі да раніцы.

**„Моладзь Беларусі“** У хуткім часе ў Вільні выйдзе з друку часопіс беларускай моладзі „Моладзь Беларусі.“

На Гамбурскі кангрэс сацыялістаў ня былі дапушчаны прадстаўнікі ад беларускіх эсэраў Т. Грыб і Я.Мамонька.

## З Менску.

Пясьняр Якуб Колас зараз піша п'есу з часоў імпэрыялістычнай вайны.

Пясьняр Міхайла Грамыка назначан асыстэнтам па катэдры геолёгіі і мінэралёгіі ў Сельска-Гаспадарчым Інстытуце.

О. Дылам напісана гістарычная драма з часоў паўстаньня беларускіх сялян супроціў панскага прыгону ў канцы шаснаццатага стагодзьдзя. Аўторам рабілася чытка п'есы беларускім літаратарам, якія, даўшы некаторыя ўвагі, прызналі п'есу дужа пекнай і багатай па зьместу. П'еса пойдзе ў Беларускім Дзяржаўным тэатры ў будучым сэзоне.

Аўторам беларускае п'есы „Вясельле“ **Гарбацэвічам** напісана новая драма з часоў польскае акупацыі. Драма перададзена дырыжору Беларускага Дзяржаўнага Тэатру Е. Ф. Міровічу на перагляд.

У хуткім часе Беларускім Каапэрацыйным Выдавецтвам „Савецкая Беларусь“ выпускаецца поэма Якуба Коласа—„Новая Зямля“.

Рэдакцыя газэты „Савецкая Беларусь“ у хуткім часе выдае першы зборнік (25 вершаў) беларускага сатырыка-песьняра Крапівы.

Палітпрасьветам Беларусі пастаноўлена выдаць збор п'ес вядомага беларускага драматурга В. У. Галубка.

Студэнтамі Горэцкага Сельска-Гаспадарчага Інстытуту рыхтуецца да выданьня часопіс „Беларускі Гаспадар“.

Выдавецкім Аддзелам пры Камісарыяце Земляробства выдана на беларускай мове „Як узгадаваць і даглядаць сад“ Я. Пачопкі.

## Каб не упаў наш сьцяг.

Рэдакцыя нашай газэты атрымала ахвяры на прэсовы фонд і пісьмо, якое ніжэй зьмяшчаем:

„Група беларусаў Вішнеўскай, Трабскай і Юрацішскай гмін, прачытаўшы газэту „Наш Сьцяг“, жадаюць рэдакцыі трывалай і ўдалай барацьбы за вызваленьне рабоча-сялянскага працоўнага люду ад нацыянальнага і сацыяльнага прыгнячэньня.

Складаем 50,000 м. ахвяр, каб не ўпаў наш сьцяг“.

(*Подпісы*).

### Сэкрэтарыят Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, I I Слабодка 8, сэкрэтар Калясінскі.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеускі.
5) **Наваградак**, Вялікі Рынак 14, сэкр. Я. Біруковіч.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28, сэкр. Ян. Шнаркевіч.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22, Г. Сабалеускі.
8) **Баранавічы**,
9) **Горадня**, Мастовая 9.
10) **Валкавыск**, Пясковая 14.
11) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв, 1 сэкр, Канстанты Карыцкі.
12) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
13) **м. Клешчэлі**, Бельскага павету.
14) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
15) **Пружаны**, Вуліца кс. Буткевіча, 16.

**Беларускі Пасольскі Клюб**, Варшава, Вейская вул. Сойм.

## Рынковыя цэны у Вільні.

**3 чэрвеня 1923 г.**

У пудах. Пшаніца 34,000, мука жытняя 28.000, мука пшонная 60.000-70.000, мука жытняя пытлявaная 44.000, ячмень 25,000, грэчка 23,000, сена 18,000, авёс 30,000—32,500, гарох 28,000, салома 11,000, моркава 30,000, буракі 135000, бручка 20,000, бульба 7.500, капуста квашаная 26,000, цыбуля 20,000.

Мяса валовае 210,000, мяся сьвіное 260,000—265,000, цяляціна 150,000.

Конская сырая скура 200,000, валовая 280,000, хром I гат. за штуку 13,000, падашва 16,000—17,000 за фунт, падашвіца 18,000—19,000, халявы платавыя 55000.

Шкло ваконнае 18,000 за метр, цэмант за 11-ці пудовую бочку 142,000, вапна 65,000 за пуд, цьвякі 3-х палёвыя 85,000 за пуд, меншых разьмераў 95,000.

Цэна маюць нахіл на павышэньне.

## Курс на грошы.

**Варшава 8 чэрвеня.**

| | |
|---|---|
| Доляры . . . . . . . . . | 61,300—62,500 |
| Англійскія фунты . . . . | 288,000—292,000 |
| Нямецкая марка . . . . . | 77—78 |
| Франкі . . . . . . . . . | 4.000 м. |

31-га чэрвеня установлен новы курс польскага злотага у . . . 9.000 м.



Рэдактар-выдавец Я. Лагіновіч.

Друкарня Левін і Сын, Нямецкая 22.